ГОД VI ЛІСТАПАД - СЬНЕЖАНЬ 1952 г. № 51

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ


а. Леў — З намі Бог! ..... 1

а. Лазар — Бог у гісторыі ..... 2

А. Надсон — Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР ..... 4

а. Л. Гарошка — Стылёвыя беларускія дзераўляныя сьвятыні ..... 6

а. Л. Гарошка — Замкавая царква ў Менску ..... 8

І. Ігарэвіч — Яшчэ аб Горадні ..... 9

А. Жменя — Нэрвы ня вытрымалі ..... 10

На рэлігійнай ніве ..... 12

Беларуская хроніка ..... 14

А. К. — На кніжнай паліцы ..... 16

Абразкі з жыцьця ..... ***





**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VI. № 51 Novembre-Décembre 1952

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI^e

| **Перадплата «Божым Шляхам» на 1953 г.** | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 10 шыл. |
| Аргентына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 8 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI°.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:
**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981, 4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:
**Mr. Jackievicz Donat, 60. Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:
**Mr. Sacko Alexander. 19, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:
Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**
У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**
У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**УВАГА!**
Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка. **Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Відзен сокал па ляту, а сава па воку.

Відна па вочках, хто ходзіць па ночках.

Вока бачыць далёка, а розум яшчэ далей.

Вострае галавы і меч не бярэ.

Воўк гадаваны і няпрыяцель яднаны — усё роўна.

Воўк сабакі не баіцца, але яго зьвягі ня любіць.

Вочча наш; бацька наш курэй краў пад печ хаваў, дзеці сказалі, бацьку зьвязалі. (Насьмешка над бацькамі, якія самі ня моляцца і дзяцей ня вучаць маліцца).

Вуснамі мёд разьлівае, а за пазухай камень трымае.

Вучыся і ад дурня, але ня будзь такі, як ён.

Выплюнуўшы сьліны не падымеш. (Сказанага ня вернеш).

Вялікаму каню, вялікі хамут.

Вясковы сабака, а дваровы служка - усё роўна.

Вясна і восень на рабой кабыле езьдзяць.

Гаварыць серабро; маўчаць золата.

Галоднаму на вуме хлеб, а п'янаму хмель.

Гара з гарою ня сходзяцца, а чалавек з чалавекам заўсёды стрэнецца.

Гаспадарку вадзіць, не зажмурыўшы вочы хадзіць.

Гвалтам узяць возьмеш, а даць не дасі.

Гдзе баліць - там ручка, а гдзе міла - там вочка.

Гдзе дзяцей сем, там і доля ўсем, а ў мяне адно і тое долі жадно.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VI. ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ № 51.

# З намі Бог!

Сьвята Нараджэньня Хрыста — гэта сьвята прыходу на Зямлю Бога-Любові. Калі ў Старым Запавеце толькі час-ад-часу ў прароцтвах успаміналася, што Бог бязьмежна любіць Людзей, дык у часе нараджэньня Хрыста Бог ня толькі сказаў, але найбольш наглядна паказаў сваю бязьмежную любоў да людзкога роду.

Калісьці вуснамі прарока Ісаіі Бог казаў людзям: «Ці-ж можа жанчына забыцца аб сваім дзіцяці, каб не пашкадаваць сына свайго лона? Але калі-б і яна забылася, дык я не забудуся аб табе» (Ісаія, XLIX, 15).

І Бог не забыўся людзей, ня выракся іх, хоць яны, пачаўшы ад першароднага граху, усё больш абражалі Яго, тупталі Ягоныя прыказаньні, Бог ніколі не перастае любіць людзей. Калі людзі на Божую дабрату адказвалі зьневажэньнем, грэшным жыцьцём — Бог адказвае людзям па-Божаму — бесканечнай міласэрнасьцю, бо Ён бесканечная Любоў. Ён пасылае на Зямлю свайго Адзінароднага Сына, каб Той прынёс збаўленьне ўсяму людзтву; гэта значыць ,каб прынёс Божую навуку, каб прыняў на Сябе ўсе людзкія слабасьці і грахі, ды адпакутаваў за іх.

І як ніколі пісьменьнікі і паэты ня змогуць даволі апяваць земскую любоў, дык тымбольш ня толькі пісьменьнікі, але агулам усе людзі ніколі не перастануць услаўляць сьвята Нараджэньня Хрыста, прыходу на Зямлю Бога-Любові.

Заўсёды вартасьць нейкае рэчы ясьней можна ўбачыць, калі прыраўняецца яе да іншае падобнае рэчы. А да чаго можна прыраўняць Божую любоў? На зямлі найбольш узьнёслаю любоўю лічыцца мацярынская любоў. Асабліва калі дзецям здарыцца якое няшчасьце, выяўляецца веліч мацярынскае любові. Хто ня бачыў, як маці вартуе дзень і ноч ля ложка хворага дзіцяці, як згінаецца над ім, старючыся ўлавіць найменшы рух вуснаў і вачэй, адгадаць жаданьне хворага, каб хоць чым небудзь памагчы яму ў цярпеньні! Колькі гэройства і самаахвярнасьці ў гэтай любові! Вялікая мацярынская любоў, але гэтая веліч абмежаваная і ў параўнаньні з веліччу Божае любові яна ёсьць нічым. Для ратаваньня людзей ад граху маткі нічога не маглі зрабіць, бо самі былі ў ягоным палоне, а Бог-Сын сходзіць з нябесных вышыняў на зямную даліну; з пасаду нябеснае славы да пакорнага паніжэньня, лажучыся як немачнае дзіця ва ўбогіх ясьлях. Валадар сусьвету стаецца чалавекам, але не на тое, каб патураць людзкім слабасьцям, а на тое, каб узьняць людзей да Сябе і прынясьці Сябе Самога ў ахвяры за іх, каб гэткім чынам адкупіць іх з палону граху і ўмагчыміць людзям атрыманьне асьвячаючае ласкі, якая адчыняе вароты да вечнага шчасьця ў небе.

Гэтую праўду неабходна прыпамінаць якнайчасьцей, бо ў ёй выяўляецца асноўная розьніца між хрысьціянскім і бязбожным сьветаглядамі. Калі бязбожнікі выдумоўваюць розныя тэорыі на тое, каб панізіць чалавека да ўзроўню толькі вышэйшых жывёлаў — да быдла, дык хрысьціянства стараецца і ў сапраўднасьці дае усё неабходнае чалавеку, каб яго ўзьняць да неба, да Бога. Не дарма падчас багаслужэньня на Каляды ў сьвятынях урачыста пяюць «З намі Бог!»

На гэтым і павінна палягаць сьвяткаваньне Нараджэньня Хрыста, каб сапраўды Бог быў з намі, каб Ён завалaдарыў непадзельна ў нашай душы, у нашай хаце, у нашым грамдзтве. Калі хто абмяжоўвае сваё сьвяткаваньне толькі да сытнага стала, дык гэта далёка не сапраўднае сьвяткаваньне, бо-ж і нехрысты любяць паласавацца пры розных нагодах за сытным сталом (нават часьцей як вернікі).

Сьвяткуючы Нараджэньне Хрыста неабходна ўсьведаміць, што найпершаю ўмоваю гэтага сьвяткаваньня павінна быць паявілічэньне хрысьціянскае любові да бліжніх, гэта значыць да ўсіх людзей — вось сапраўдны сэнс сьвяткаваньня. Дробныя выявы гэтае любові можна бачыць у сьвяточных пажаданьнях і падарунках. Але і пажаданьні і падарункі бываюць розныя. Калісьці пастушкі з Бэтлеему і магі з усходу ахвяроўвалі Нованароджанаму найлепшае што мелі. Сёньня Хрыстос у небе, але перад адходам Ён казаў: «усё што зробіце аднаму з братоў Маіх меншых, Мне зробіце». Згодна з гэтымі словамі і мы сёньня можам ахвяраваць Хрысту нашы найлепшыя дарункі. Але найлепшым дарункам будзе тое, што най-

УСІМ ЧЫТАЧОМ І ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ РЭДАКЦЫЯ ЖАДАЕ АТРЫМАЦЬ ВЯЛІКІЯ ЛАСКІ АД НОВАНАРОДЖАНАГА ХРЫСТА І ЗЫЧЫЦЬ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ.

больш адказвае Ягонаму жаданьню. І тут варта прыпомніць, што яшчэ ў Старым Запавеце Госпад гаварыў: «Мая ўся зямля дый усё, што яе напаўняе. Ці-ж Я буду есьці мяса валоў або буду піць кроў казлоў? Богу ў ахвяру падзяку аддай і ўсявышняму дасі абяцанае табой» (Пс. XLIX, 12-14).

Тут вось і трэба сябе спытаць, што мы абяцалі калі ўсявышняму? Ёсьць такія вернікі, якія ніколі нічога Богу не абяцаюць, а заўсёды толькі жадаюць ад Бога, каб Ён даваў ім, каб Ён выконваў іхныя пажаданьні. Падобна паводзяцца яны аднослна сваіх бліжніх. Паважная прычына слабасьці сучаснага рэлігійнага жыцьця ляжыць у тым, што шматлікія вернікі ў штодзенным дзеяньні і малітве «Ойча наш» сьвятыя словы: «сьвяціся імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як на небе, так і на зямлі» — паўтараюць бязуважна, а галоўны націск кладуць толькі на словы: «Хлеба нашага штодзеннага дай нам сёньня».

Вось-жа ў знак любові да Хрыста шчыра паабяцаем выконваць верна Божыя прыказаньні, гэта будзе наш найлепшы дарунак Новаароджанаму. Тады Бог будзе заўсёды між намі, не ў ясьлях, але ў нашым сэрцы. Праз гэта хутчэй надыйдзе той дзень, калі ў нашай шматпакутнай бацькаўшчыне прыдзе канец бязбожнаму гаспадараваньню.

**а. Леў.**

# Бог у гісторыі

Аўстрыйскі гісторык праф. Карло Штумпф-Брэнтано перад сваею сьмерцю ў Інсбруку 1832 г. разьвітваючыся навекі са сваімі сябрамі, казаў: «Дасьледваючы гісторыю, я меў магчымасьць бачыць, як Божая рука адчуваецца на ходзе гісторыі чалавецтва». Для некаторых гэтыя словы вучонага на першы пагляд могуць выдавацца дзіўнымі, аднак тым ня менш яны праўдзівыя. Ня ўзгляднёўшы Божае рукі ў гістарычных падзеях, гісторыкі ня раз станавіліся перад неразгаданымі «загадкамі». Напрыклад ведамы нямецкі гісторык Тодар Момзэн (1817-1903) свой вялікі твор у чатырох томах «Гісторыя Рыму» ўласьціва пакінуў недакончаным і толькі аднойчы ў прыступе шчырасьці сказаў свайму сябру, чаму так сталася: «У часе рымскіх імпэратараў праяўляецца нейкае такое ператварэньне духовага жыцьця, да якога я не магу выкрыць ані законаў, ані ўнутраных прычынаў». Чамусьці Момзэн не заўважыў тае духовае рэвалюцыі, якую ў рымскай імпэрыі выклікала хрысьціянства і гэтая рэвалюцыя дзейнічае ўва ўсім сьвеце. Не дарма цяпр усе гістарычныя даты рахуюцца: да Хрыста і па Хрысьце.

Праяўляецца Божая рука ў гісторыі рознымі спосабамі. Напрыклад для распаўсюджаньня Хрысьціянства асабліва прыдатнаю была Рымская імпэрыя з яе добра ўпарадкаванымі шляхамі камунікацыі, умагчымліваючы гэтым самым хуткае ўтварэньне хрысьціянскіх грамадаў ува ўсіх важнейшых цэнтрах імпэрыі, а ўжо адтуль хрысьціянства магло пранікаць у глыб правінцыяў і ў глыбіні людзкое душы.

Вельмі характэрна праяўляецца караючая Божая рука адносна злачынцаў. Трэба аднак засьцерагчыся, што нельга дашукавацца Божае кары ў дачасным жыцьці адносна кожнага ворага хрысьціянства — гэта нават супрярэчыла-б — Божым плянам адносна людзей, бо-ж уласьцівая кара за грахі і ўсе злочыны чакае людзей па сьмерці. Аднак часта ўжо і ў дачасным жыцьці праяўляецца Божая караючая рука на публічных грэшніках асабліва падчас сьмерці. Хрысьціянскі апалёгэт Ляктанцый у першай палавіне IV в. у сваім творы «Аб сьмерці тых, што прасьледуюць», зьвярнуў увагу на вымоўны факт, што большасьць рымскіх імпэратараў, якія прасьледавалі хрысьціян, загінула не сваею сьмерцю. Вось некалькі прыкладаў:

Нэрон кончыў жыцьцё самагубствам пасьля таго, як сэнат адабраў ад яго ўладу ў 68 г. Доміцыяна замардавалі ваенныя, што сьцераглі ягонага палацу ў 96 г. Дэкій пасьля наўдачнае вайны каля Мэссіны ў 251 г. уцякаючы заблукаўся ў балоце і загінуў у твані, а перш ён марыў, каб вынішчыць дазваньня хрысьціянства. Валерыян ў 260 г. трапіў у палон пэрскаму каралю Сапору, а той яго ўпакорыўшы да найгоршых паслугаў, уканцы загадаў з жывога злупіць шкуру. Аўрэліяна замардавалі ягоныя-ж прыяцялі ў 275 г. хутка пасьля выдачы супрацьхрысьціянскіх дэкрэтаў. Максімін кончыў самагубствам у 310 г. Галерыяна так разьелі пранцы, што ўміраў ў 311 г. ужо зусім згніўшы. Максімін Даля атруціўся ў 313 г. Дыоклiцыян перажыў канец палітыкі прасьледаваньня хрысьціянства, але ўпаў у чорнае прыгнобленьне і ўканцы зусім страціў розум. Няслаўны канец

гэтых апошніх імпэратараў, відаць, падказаў Ляктанцыю напісаць успомінную кнігу.

Але ня толькі першыя вякі хрысьціянства, праяўляюць дзеяньне ўсемагутнае Божае рукі на магутных гэтага сьвету, гісторыя усьцяж дае шматлікія доказы, што Божая караючая рука часта відавочна праяўляецца на асобах публічных злачынцаў. У 1886 францускі сьвятар Плюо назьбіраў багаты матэрыял і выдаў асобнаю кніжкаю аб «Сьмерці прасьлядоўнікаў Царквы і папства ад пачатку хрысьціянства да нашых дзён». Іншыя гісторыкі потым да гэтага твору дадалі шматлікія новыя факты. Пералічыць усе сабраныя факты ў рамках аднага артыкулу абсалютна немагчыма, дык неабходна абмежавацца толькі больш цікавымі і больш значнымі фактамі.

Юліян Адступнік пасьля кароткага, але жарстокага прасьледаваньня хрысьціян, канчае ў 363 г. жыцьцё самагубствам, кідаючыся на меч. Кароль Лянгобардаў Астольф выступаў некалькі раз супраць папы Сьцяпана III, але двойчы быў разьбіты войскамі Піпіна, а ўканцы загінуў на паляваньні, валяючыся з каня ў 756 г. Ягоны наступнік Дэзідэрый, ідучы тым-жа сьледам, канчае яшчэ горш, бо трапляе ў палон Каралю В., а той яго замыкае ў дасьмяротную турму.

Імпэратар Гэнрык IV быў распаліў вострую спрэчку супраць папы Рыгора VII ,але сам кончыў жыцьцё ў царкоўным выкляцьці (экскомуніцы), а дзевятнаццаць гадоў пасьля сьмерці, адначасна са сьмерцю яго сына Гэнрыка V, вымірае іхны род.

Імпэратар Фрыдрых II (1198-1250) выступаў востра супраць папы і супраць Царквы, за гэта быў выкляты, а 18 гадоў пасьля ягонае сьмерці, са сьмерцю пляменьніка Канрадына выгас іхны род Гогэнштаўфэнаў.

Францускі кароль Піліп IV Прыгожы (1284 - 1314) ня раз нападаў на папу Боніфацыя VIII і праз гэта трапіў пад экскамуніку, а пасьля ягонае сьмерці на працягу 14 гадоў памерлі бязьдзетна ўсе тры ягоныя сыны, а з імі зьнік род Копэцінгаў.

Ведама, як адносіўся да рэлігіі Наполеон Бонапарт. Ён не зьвяртаў вялікае ўвагі на тое, што за сваю супрацьцаркоўную дзейнасьць быў выкляты папаю Піем VII, але жыцьцё сваё ко́нчыў на бязьлюднай выспе сьв. Алены.

Калішнія магнаты на Беларусі нялюдзка зьдзекаваліся над беларускім сялянствам і не зьвярталі ўвагі на праклёны, што ўзносіліся пакрыўджанымі сялянамі да неба, але сёньня дзесь бясьсьледна зьнікі магнаты і пустуюць котлішчы па іхных палацах. На іх спраўдзіліся грозныя мольбы псальмапеўца: «Вылі на іх гнеў Твой і полямя гневу Твайго няхай дасягне іх. Няхай апусьцее сяліба іх і няхай у жыльлях іх ня будзе жывое душы» (Псал. LXVIII, 25-26).

У часе апошняе сусьветнае вайны націстоўскія кіраўнікі пасьля першых перамогаў пагражалі Царкве, што як толькі кончаць вайну, дык зьнішчаць Каталіцкую Царкву, тымчасам Каталіцкая Царква існуе і далей, а яны пасьля Нюрынбэрскага суду павешаны і нават попел іх цела́ў выстралены на вецер.

Варта глянуць так-жа на тых, што можа найбольш люта прасьледуюць хрысьціянства — на савецкіх агэнтаў ГПУ, НКВД і Сучаснага МВД. Час-ад-часу толькі даведваецца вольны сьвет аб сьмерці іхных кіраўнікоў, але агульна ведама, што рэдка хто з іх канчае жыцьцё сваею сьмерцю. Ведама напрыклад, што чэкіст Жукоў, які ў 1923 растраляў магілёўскага прэлата К. Буткевіча і агулам за свой век меў на сумленьні аж 2.000 растрэлаў, кончыў сваё жыцьцё самагубствам. Ежоў — які меў на сумленьні мільёны нявінных ахвяраў, быў растрэлены па загаду тых, для каго выслугоўваўся. А колькі пайшло сьледам за Ежовым?!

Пералічаючы гэтыя факты, яшчэ раз трэба прыпомніць, што нельга чакаць праяўленьня караючае Божае рукі ў дачасным жыцьці адносна усіх злачынцаў. Ад Бога ніхто і нікуды не ўцячэ, а тымсамым і не ўцячэ ад заслужанае кары. Сьпяшацца ў сваім дзеяньні Бог ня мае ніякае патрэбы. Ён вечны. Ужо ад вякоў народ заўважыў, што Бог праўду бачыць, але ня скора скажа, аднак няма ніякага сумніву, што яе напэўна скажа ў свой час. «Бог ня стучон, да лучон».

Да таго ўсяго неабходна зазначыць, што караньне не ляжыць упрост у Божых плянах. Сапраўдным жаданьнем Бога ёсьць, каб кожны чалавек паасобна і ўсе народы асягнулі вечнае шчасьце ў небе, але сілаю туды Бог нікога цягнуць ня хоча. Ён даў кожнаму чалавеку свабодную волю, каб кожны сам захацеў дабравольна йсьці па шляху, які паказалі пракрокі і Хрыстос. Усякі іншы жыцьцёвы шлях, які выдумоўваюць сабе людзі, вядзе да загубы, да вечнага цярпеньня, бо для чалавека няма шчасьця бяз Бога. Вось-жа празьмернае цярпеньне ёсьць творам самых людзей іхных неўпарадкаваных жаданьняў, іхных блудных дарогаў, а Бог іх толькі дапускае, каб уканцы людзі, удоваль нацярпеўшыся, схамянуліся і завярнулі на дарогу праўды.

Дзякуючы свабоднай волі людзі маюць вельмі розныя характары, адны слухаюцца ківа, а другія — толькі кія. Адны слухаюць Божых прыказаньняў з любові да Бога, а іншыя толькі дзеля страху перад пеклам, а прыгадваюць аб існаваньні пекла толькі тады, калі скаштуюць пякельнага цярпеньня на зямлі. Гэткім чынам цярпеньне ў гісторыі людзтва можна прыраўняць да бар'ераў на дарозе, што йдзе праз нетры і балоты — пералезь праз бар'еры і загразьнеш у твань.

Калі хто сходзіць з дарогі, праз гэта самая дарога ня нішчыцца, падобна і блуканьні паадзіночных людзей ня нішчыць ані ня крыжуюць Божых плянаў. Таксама і пляны розных бязбожных па-

літыкаў ня крыжуюць Божага кіраўніцтва ў сьвеце. Наадварот — гэта Бог крыжуе неразумныя людзкія пляны, гэта Ён робіць розныя неспадзеванкі ў гісторыі.

Паўставаньне і зьніканьне дзяржаваў не адбываецца бяз Божага допусту. Калі маральна упаўшыя дзяржавы не знайходзяць сілы падняцца, дык зьнікаюць з паверхні зямлі. Прыкладам гэтага можа быць такая магутная дзяржава, якою была калісь Рымская імпэрыя.

Разважыўшы гэтыя факты, ня цяжка зрабіць практычны выснавак. Калі Бог ёсьць найвышэйшым і наймагутнейшым кіраўнікам усяго людзтва, кожнага народу і кожнага чалавека ў паасобнасьці, дык замест шукаць розных выкрутаў, каб апраўдваць сваю слабасьць, замест лезьці ў прорву цярпеньня на бездарожжы праміналочых людзкіх выдумкаў, трэба шукаць магчымасьці верна выконваць Божую волю: праз гэта даходзім да асягненьня нашае апошняе мэты і прысьпяшаем зьдзейсьненьне Божых плянаў адносна народу і ўсяго людзтва.

Найцямнейшая ноч ня страшна таму падарожнаму, які мае з сабою нязгасны сьветач — такім сьветачам у гісторыі ёсьць вера ў Божы правід.

**а. Лазар.**

# Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР

«...Сьвятыя рукі аднолькава пахнуць. Ды зрэшты, у ксяндзоў яны больш як ва ўсіх у крыві. Была жывучая гадзіна — жывучай пакуль што і засталася. Гэтыя шкодзяць і будуць нам шкодзіць да скону свайго». Гэта вынятак з кніжкі беларускага літаратурнага стаханаўца Я. Брыля «У Забалацьці днее», за якую летась атрымаў сталінскую нагароду. Яна добра характэрызуе адносіны камуністаў да рэлігіі агулам, а да каталіцызму ў асаблівасьці.

Камуністы варожа адносяцца да ўсіх рэлігіяў, але каталіцызм лічаць сваім найгоршым ворагам, дзеля гэтага змаганьне з каталіцызмам займае ў іх шмат больш мейсца, чым змаганьне з усімі іншымі рэлігіямі. Даволі прыглянуцца на жудасны прасьлед каталікоў у СССР і краінах «народных дэмакрацыяў», паслухаць атакаў заходняе камуністычнае прэсы супраць Ватыкану, каб аб гэтым пераканацца з усёю пэўнасьцю. Больш таго, у змаганьні з Каталіцкай Царквою камуністы выкарыстоўваюць іншыя хрысьціянскія Цэрквы, якія ўжо змаглі падпарадкаваць сабе на службу. Так напр. яны выкарысталі Праваслаўную Царкву ў вынішчаньні украінскіх і румынскіх каталікоў усходняга абраду.

На Беларусі да рэвалюцыі каталікі складалі 17% насельніцтва. Ведама, што іх камуністы не пакінулі ў супакоі. Колькі сёньня асталося каталіцкага насельніцтва на Беларусі, няма ніякіх вестак, але ўсё прамаўляе за тым, што камуністы робяць усё, што толькі могуць, каб вынішчыць дазваньня рэлігійнасьць перадусім у душах маладога пакаленьня і зачынаюць гэта ў першую чаргу ад вынішчэньня каталіцызму. На гэтае змаганьне яны мабілізуюць усе сілы і не апошняе, наадварот «пачэснае», заданьне ў гэтай барацьбе атрымала беларуская савецкая «мастацкая» літаратура. Творцы «беларускае сацыялістычнае літаратуры», «нацыянальнай па форме і сацыялістычнае па зьместу», атрымалі гэнэральную лінію і ў сваіх творах карыстаюцца дакладна ўстаноўленаю бальшавіцкаю тэрміналёгіяю, каб ганьблючы ўсе рэлігіі, асабліва ачарніць Каталіцкую Царкву, зрабіць Яе ненавіснаю ўсяму беларускаму народу. Перадусім яны стараюцца ачарніць Яе на міжнарожным груньце.

Ад пару гадоў камуністы на ўсім сьвеце робяць вялікі гоман аб міру. Склікаюць розныя крыклівыя кангрэсы, зьезды, пішуць пратэсты супраць вайны, атамнае бомбы, бактэрыялягічнае вайны. Мэта гэтага гарланьня ясная: даказаць, што Савецкі Саюз ёсьць «найбольш міралюбівай» дзяржавай у працілежнасьці да «крывяжорнай» Амэрыкі і яе «слугаў». Сярод гэтых слугаў, паводля цьверджаньня міралюбівых камуністаў, не апошняе мейсца займае Ватыкан, вось супраць Ватыкану, як «падбухторшчыка вайны» і падымаюць крык на ўсім сьвеце.

Беларускіх пісьменьнікаў бачым у першых радох на фронце супрацькаталіцкага наступу. Якуб Колас, прамаўляючы на ўсесаюзнай канфэрэнцыі «прыхільнікаў міру», амаль палову свае прамовы прысьвяціў нападам на Сьвяцейшага Айца і на Ватыкан. (Гл. зборнік «Поступ міру», Мінск 1952). Вось характэрыя мейсцы з гэтае прамовы: «У... кампаніі драпежнікаў і рабаўнікоў... «ганаровае» мейца належыць і так званаму намесьніку апостала Пятра на зямлі, папе Пію XII, прарадаўняму жыхару ватыканскага дупла, іезуіту інквізітару... Пій XII блаславіе атамную бомбу і праклінае тых сыноў каталіцкай царквы, якія супрацоўнічаюць з прагрэсіўнымі партыямі і гавораць «Далоў вайну!»... Але-ж папа Пій XII таксама падпальшчык вайны, і яму, вядома, не падабаецца голас свабодалюбівых народаў. Ён адлучае ад царквы і перадае анафеме тых людзей, якія пратэстуюць супраць ваеннай істэрыі ўолстрытаўскіх насьледнікаў Гітлера». У такім дусе вытрымана ўся прамова. Яна асабліва балючая для нас беларусаў, бо паказвае да якога нізкага ўзроўную зводзіць бальшавізм нават такіх людзей, як аўтара «Новае зямлі» і «Сымона музыкі». Проста ня верыцца, што гэта той самы чалавек.

Калі так гаварыў Колас, дык ці можна дзівіцца, што камуніст Пятро Броўка пастараўся выказаць сваю вернасьць камуністычнай лініі сапраўды ў

агідым рыфмаваным лісьце да Папы пад назовам «Размова з папам Піем» (Пятро Броўка, Вершы. Мінск 1951). У гэтым «лісьце», пасьля цынічнага высьмейваньня цудаў, зробленых Хрыстом, аўтар зьвяртаецца да Папы з рознымі прапановамі ўвесьці «прагрэсыўныя» новаўвядзеньні, а канчае гэны ліст так:

Скажы, прадаўся ты з крыжом
За плату, за якую?
З вады ня робіш ты віна,
Піць хочаш кроў людзкую.

Ня знаю, служыш ты ў Хрыста,
А знаю, што ў багатых —
Вадой так званаю сьвятой
Ты кропіш ім гарматы.

Ты іх кіруеш на разбой,
На просты люд, мы знаем!
Раз так — падпальшчыкам вайны
Цябе мы залічаем!

Тут трэба заўважыць вельмі характэрную азнаку ў сучаснай супрацькаталіцкай прапагандзе, што камуністы ўсюды стараюцца разьдзяліць «просты люд» ад каталіцкае ерархіі. Гэтая лінія выразна бачна і ў беларусіх пісьменьнікаў. Колас стараецца паказаць, што існуе антаганізм паміж «простымі каталікамі і каталіцкімі духоўнымі ўладамі». Падобна дзеецца ўва ўсіх падсавецкіх краінах. Усюды відаць імкненьне ўбіць клін паміж каталіцкімі вернікамі і духавенствам, каб гэткім чынам рассадзіць Царкву знутра.

Асаблівую ахварбоўку мае супрацькаталіцкая прапаганда ў Зах. Беларусі. Тут больш цікавяцца не міжнародным становішчам каталіцызму, але уласным панадворкам. Тут кладзецца больш націск на тое, што каталіцызм гэта нешта чужое для беларусаў, нешта варожае і шкоднае, накіненае ворагамі беларускаму народу. Напрыклад Піліп Пястрак у апавяданьні «Муж і жонка» (П. Пястрак, Першыя ўсходы. Мінск 1951) апісвае гісторыю аднае сялянскае сям'і ў часе нямецкае акупацыі і ўсю трагэдыю гэтае сям'і стараецца пабудаваць на тым, што Макар — камуніст быў калісь праваслаўным, а ягоная жока Алена каталічкай; усе яе родныя каталікі і супрацькамуністы. У гэтым апавяданьні дзеючыя асобы паўтараюць даслоўна афіцыяльную камуністычную супрацьрэлігійную прапаганду, дык паўтарaць яе тут няма патрэбы. У іншым апавяданьні Пестрака «Першыя ўсходы» паказваецца каталіцкая сям'я Паўла Тарасевіча. Павал працаваў у кулака Руцяцкага і той яго моцна крыўдзіў. Павал ідзе да ксяндза на скаргу, але ксёндз, ведама, бараніў інтарэсы кулака. Больш таго, хутка пасьля размовы з ксяндзом паліцыя арыштавала Паўла. У выніку гэтага Павал траціць веру і: «калі жонка ў нядзелю зьбіралася йсьці ў касьцёл, Павал першы раз у жыцьці сказаў:

— Куды йдзеш — да касьцёла? Не хадзі... Бог працуе не для нас... Бога няма... Ёсьць паны і ксяндзы і яны робяць, што хочуць над намі, беднымі, выдумаўшы Бога для ашуканства.

Пахарашэў яго твар на хвіліну пры гэтых словах, бо розум прасьвятлеў».

Далей ідзе апавяданьне аб розных учынках ксяндза падчас нямецкае акупацыі і ўканцы падчас новае бальшавіцкае акупацыі, калі ксёндз стаецца цэнтрам усяго супрацькамуністычнага змаганьня: ён агітуе супраць калгасаў, ён падтрымоўвае польскую нелегальную арганізацыю «Народовэ сілы збройнэ», дык ня дзіва, што канчаецца апавяданьне паказам, як удала савецкія агэнты разграмілі антыкамуністычны цэнтр, арыштоўваючы былых кулакоў і ўканцы ксяндза. Усё апавяданьне пабудавана на тым, каб каталіцызм непадзельна злучыць з асобаю польскага ксяндза і праз гэта зрабіць яго антыбеларускім.

Успомнены на пачатку гэтага артыкулу Янка Брыль у апавяданьні «У Забалацьці днее» між сваіх гэрояў паказвае людзей аж трох веравызнаньняў: баптыстаў, праваслаўных і каталікоў, пры чым гэтых апошніх разрозьнівае лацінскага і ўсходняга абраду і апошніх ганьбіць найгорай. Кніга мае агулам антырэлігійны характар. Аўтар, дарэчы кажучы калішні талстовец, насьміхаецца з рэлігійных практык праваслаўнага кулака, з паводзін сям'і баптыстаў і асаблівую волю ў ачорніваньні рэлігіі дае ў апісваньні каталікоў. Праўда сыны ўсіх успомненых сем'яў знаходзіліся ў антыкамуністычным партызанскім адзьдзеле і ўсе былі злоўленыя і асуджаныя,

Які агульны дух гэтае кнігі, хай сьведчаць прыклады. Вось апісаньне касьцёлу ў раённым цэнтры: «Гляджу на вялізарны спрадвечны будынак — гняздо груганоў — і мне здаецца, што пад ім глыбока залезла ў зямлю векавое карэньне... Благое зельле глыбока расьце...» але зьмяніліся абставіны і «Застаўся толькі ксёндз. Стаіць толькі касьцёл. Карэньне пад гэтым атручаным дрэвам сядзела глыбока, ды сёньня яму ўжо сокаў няма, струхлела карэньне — пара паваліцца і дрэву. Побач з касьцёлам — ксяндзоўскі дом, клебанія. Тут і сядзіць, як той стары пугач у дупле «яснавялебны ксёндз пробашч»...»

Каталіцызм усходняга абраду — вунія — мае асобную прычыну, каб варожа настроіць да себе камуністаў і асабліва расейцаў. Брыль аб гэтым кажа: «Толькі нядаўна я па-сапраўднаму даведаўся, што такое унія. Паны прыдумалі яе даўно, каб ачмурыць нас, адарваць нас ад Расіі. Для гэтага «Божы намесьнік на зямлі» — рымскі папа паслаў магната Шэптыцкага з Рыму ва Львоў». Пры гэтым аўтар апісвае вуніяцкага сьвятара. Ён перад вайною вучыўся ў беларускай гімназіі, а пасьля пайшоў вучыцца на вуніяцкага сьвятара. А стаўшыся сьвятаром: «з езуіцкай лісінай пако-

рай хадзіў па вёсках, носячы людзям «збаўленьне ад бязбожнага камунізму».». У гэткім дусе напісана ўсё апавяданьне.

На асобную ўвагу заслугоўвае паэтычная паэма Васіля Віткі «Шчасьце паэта» (Мінск 1951), бо ў ёй аўтар стараецца выкарыстаць для савецкае прапаганды асобу Янкі Купалы. Ужо сам факт, што выводзіцца на сцэну як найлепшы сябра Купалы нейкі камуніст Стрыжак, а ворагам беларускага народу паказваецца супрацоўнік «Нашае Нівы» нейкі ксёндз Гадоўскі, сьведчыць аб тым, колькі хлусьлівае прапаганды ўведзена ў гэтую паэму . Аб ксяндзу Купала адзываецца з абрыджаньнем за тое, што: «гэты беларус (кс. Гадоўскі) калі памерлі ў адзін дзень дзьве маіх сястры, не хацеў пахаваць іх, пакуль ня злупіў з мяне падвойнае платы. «Я бяру ад галавы». Так і сказаў — ад галавы...» Далей апавядае, як ксёндз хоць і гаварыў у часе беларускага нацыянальнага ўздыму казаньні пабеларуску, але гэта рабіў толькі дзеля таго, каб зьяднаць сабе сялян і выслаць іх у Амэрыку, бо маўляў з гэтага высыланьня мае вялікі даход па 80 рублёў за галаву. Купала ў вочы ксяндзу выказвае свой гнеў і абурэньне за такія паводзіны і ўканцы кліча: «І маіх песень судзіць сказ ня вам, ня вам, хрыстапрадаўцы». Словам выходзіць, што Купала быў і камуніст, і бязбожнік, і вялікі ненавісьнік каталіцызму.

Дзеля ўзмацненьня супрацькаталіцкае нагонкі перакладаюцца на беларускую мову спэцыяльныя антыкаталіцкія творы і артыкулы маскоўскага ваюючага бязбожніка М. Шэйнмана. Самыя загалоўкі сьведчаць аб зьмесьце гэтых «твораў». Менская «Звязда» з 1-га красавіка 1952 г. надрукавала артыкул: «Ватыкан на службе амэрыканскага імпэрыялізму», дзе аўтар стараецца даказаць, што Ватыкан быў заўсёды «рэакцыйны» і змагаўся супраць «прагрэсу», не падаючы пры гэтым ніякіх фактаў і таксама не падаючы ніякіх фактаў, цьвердзіць: «Разам з уніяцкім духавенствам каталіцкія ксяндзы ў Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі былі апорай памешчыкаў і ўлады ў іх гнуснай палітыцы паняволеньня і акаталічваньня беларусаў і украінцаў». І далей не шкадуе слоў, каб зганьбіць «асабліва злачынную ролю... уніяцкіх сьвяшчэньнікаў». Відаць дзеля гэтага бальшавікі так хутка зьліквідавалі вуніятаў, прылучыўшы іх сілаю да расейскае Праваслаўнае Царквы. Уся пісаніна Шэйнмана прасякнута страшэннай нянавісьцю да каталіцкае ерархіі — гэтых «ненавісных агентаў Ватыкану».

Некалькі дзён пазьней у той-жа «Звязьдзе» з 11 красавіка 1952 г. зьявіўся артыкул праф. Баскіна «Філасофскія цемрашалы на службе амэрыканскага імпэрыялізму». Тут ужо аўтар ня можа ніяк спакойна гаварыць аб тым, што «Ватыкан карыстаецца асаблівай папулярнасьцю ва унівэрсытэтах З. Ш. А. У большасьці амэрыканскіх унівэрсытэтаў арганізаваны тэалягічныя факультэты...»

Вышэй падана толькі некалькі прыкладаў з тае «літаратуры», якая цяпер пашыраецца на бацькаўшчыне. На эміграцыі літаратура з БССР ёсьць вялікай рэдкасьцю, дзеля гэтага трэба думаць, што «мастацкае літаратуры» такога тыпу там ёсьць шмат больш. Сум і жаль апаноўвае чалавека, чытаючы гэтыя «творы». Жалка братоў-каталікоў, якія там мусяць цярпець зьдзек і прасьлед за сваю веру. Жалка нашае беларускае моладзі, якая ўзгадоўваецца на гэткіх «мастацкіх творах» і затручвае свае душы маной і нянавісьцю. Жалка так-жа і нашых савецкіх пісьменьнікаў. Аднак нашай пацехай ёсьць непахісная вера, што Хрыстовае Царквы ніхто ня можа зьнішчыць. Мы верым, што Хрыстос ня дасьць прапасьці дарма ўсім тым цярпеньням, якія нясуць вернікі за Ягоную Царкву і веру.

**А. Надсон.**

# Стылёвыя беларускія дзераўляныя сьвятыні

Самабытная архітэктура народу залежыць ад шматлікіх дзейнікаў, як: клімат, грунт, прывычкі, характар народу, вымогі будаўнічага матэрыялу ды іншых мяйсцовых ўмоваў. У лясной краіне, якою ад найдаўнейшых вякоў і да апошніх дзён ёсьць Беларусь, самабытны архітэктурны стыль мусіў злажыцца ў дзераўляных будынках. Гэта ня значыць, што на Беларусі мураванае будаўніцтва ня мела свайго стылю — наадварот, на Беларусі нават у запазычаных будаўнічых стылях розных эпохаў ёсьць шмат характэрных своеасаблівых азнакаў, аднак у дзераўляных будынках гэтых азнакаў ёсьць шмат больш і яны больш характэрныя.

Які быў найстарэйшы беларускі стыль дзераўляных будынкаў з усёю пэўнасьцю цяпер азначыць цяжка, бо найстарэйшыя дзераўляныя цэрквы, якія захаваліся да нашых часоў, паходзяць прыблізна з пачатку XVIII в. аднак ведаючы, што іх заўсёды будавалі мяйсцовыя майстры і ведаючы традыцыйнасьць беларускіх будаўнічых, можна быць пэўным, што гэты стыль мала зьмяняўся на працягу вякоў. Дзеля гэтага можна гаварыць аб адным стылі беларускіх дзераўляных сьвятыняў і ён будзе той самы, які можна назіраць у сьвятынях, што захаваліся да нашых дзён.

Для яснасьці закранёнае тэмы трэба зазначыць, што тут ідзе гутарка выключна аб стылёвых будынках, дзеля гэтага ня будзе лішнім сказаць некалькі слоў аб тым, што мы разумеем пад словам «стыль». Паходзіць яно ад грэцкага слова — стілёс — так называлі грэкі востры калючак,



Царква ў в. Таль, акр. Бабруйск



Царква ў в. Урэчча з XVIII ст.



Царква на Востраве ў Слуцку. Пач. XX ст.

якім пісалі па наваскаваных дошках. Потым словам стыль пачалі азначаць сваеасаблівасьці пісьма і творчасьці агулам. Сёньня словам — будаўнічы стыль —азначаецца адзінства асноўных мастацкіх вырозьніваючых асаблівасьцяў, якія праяўляюцца ў творчасьці будаўнічага. Для характэрыстыкі будаўнічага стылю перадусім бяруцца пад увагу формы будынку і разьмяшчэньне выступаючых частак, але ня менш важным для стылю ёсьць будаўнічая тэхніка і інш. Дзеля ўсяго вышэй сказанага, будынкі, якія ня маюць ніякіх мастацкіх сваеасаблівасьцяў, у нашы разважаньні не ўвайходзяць.

Самое прызначэньне сьвятыні дзеля таго, каб там асаблівым спосабам услаўляць Бога, мусіла праявіцца так у афармленьні ўсяго будынку, як і ў афармленьні паасобных яго частак. І сапраўды, калі ўважна прыглянемся да нашых старых сьвятыняў, дык усюды кідаецца ў вочы, што гэта ня проста будынкі, але асаблівыя творы людзкога духа, якія ўжо сваею формаю хочуць нешта сказаць. Яны ў першую чаргу выяўляюць глыбокую пабожнасьць майстроў, якія царкоўны будынак афармлялі як сымбаль свае думкі, зьверненае да Бога. Там усё адменнае ад будзёншчыны і адменнае якраз у тым кірунку, каб узьняць людзкую думку ўвысь, дзеля гэтага агулам сьвятыні маюць высокую, часта стралістую форму, каб адарваць думку ад усяго таго, што вяжа чалавека з прыземнымі клопатамі. У гэтым ёсьць глыбокая лё-



Цэркаўка ў в. Шылілавічы, акр. Бабруйск.



Цэркаўка ў в. Буйнаўка.



Званіца пры Барбарынскай царкве ў Слуцку на магільніку.



Званіца пры царкве ў в. Таль акр. Бабруйск.

гіка, ці-ж можа быць іначай у тым мейсцы, якое прызначаецца для больш урачыстых і больш блізкіх адносінаў паасобнага верніка і цэлае парахвіі да свайго Стварыцеля?!

У пераважаючай большасьці беларускія дзераўляныя цэрквы ў пляне маюць форму карабля, дзеля гэтага і вуглы ў іх робяцца гладкія; выступаючыя амаль ня сустракаюцца. Бярвеньні так-жа гладка аплазаваныя. Вокны звычайна невялікія і разьмешчаны даволі высока, каб не расьсяваць увагі малельнікаў.

Крыліся цэркві розна: дошкамі, дранкамі, гонтамі, часам нават і саломаю, але форма даху, страхі, ці больш правільна кажучы, верху сьвятыні ёсьць вельмі характэрная — гэта штосьці падобнае да перарыванае піраміды. Вобразна можна сказаць, што верх беларускіх дзераўляных сьвятыняў гэта сымбалічныя прыступкі, па якіх людзкі дух уздымаецца ўвысь, гэта нібы сходы да неба. Чагосьці падобнага нельга знайсьці ,ані ў катэдральных вежах, ані ў бізантыйскіх купалах, ані ў ялінкападобных гуцульскіх цэрквах, хоць гэтыя апошнія на першы пагляд здаюцца быць стылёва блізкімі да беларускіх цэркваў. Верх беларускіх дзераўляных цэркваў закончваецца або маленькім купалам, або вострым конусам з куляю і крыжам на канцы. Некаторыя цэрквы конус маюць у форме вострага шпіля, напрыклад галоўны верх царквы на Востраве ў Слуцку і інш.

Адпаведна да вонкавае формы і ўнутранаму прастору цэркваў прыдаецца стралістую форму. Праўда, гладкая столь ня ёсьць рэдкасьцю ў беларускіх цэрквах, але ў гэткіх выпадках яе часам малявалі як яснае галубое неба з Бога-Айцом і сьвятымі. Магчыма, што яшчэ і сёньня стаіць у Ваўкавічах каля Наваградку напоўразваленая старая царква ў якой нават зуб часу не пашкодзіў прыгожага малюнку неба на столі.

Амаль усе старыя цэрквы мелі хоры.

Сьцены цэркваў унутры ня пуставалі, яны запаўняліся абразамі.

Званіцы будаваліся асобна ад цэркваў, але ў тым-жа самым стылі. Яны крыху ніжэйшыя за цэрквы і маюць квадратную аснову. Характэрна, што нават некаторыя мураваныя званіцы маюць зусім такую самую форму, як дзераўляныя.

Гэтых некалькі заўвагаў магчыма заахвоціць спэцыялістаў дакладней зацікавіцца гэтаю галінаю беларускае творчасьці. Яна да сёньня замала дасьледжана, а на эміграцыі, дык і дасьледваць няма як, бо разьдзеленыя зялезнаю заслонаю ад прадмету досьледу нават фатаграфіяў дастаць немагчыма. Да таго ў выніку бязбожнае дзейнасьці на Беларусі і ў выніку вайны шматлікія бясцэнныя помнікі беларускага будаўніцтва бязьлітасна зьнішчаны, але ў Богу надзея, што ўсіх твораў народнага духу, падобна як і самога творчага беларускага духу ня ўдасца зьнішчыць ніякім варожым сілам.

**а. Л. Гарошка.**

# Замкавая царква ў Менску

У артыкуле аб найстарэйшых хрысьціянскіх сьвятынях на Беларусі (Гл. Нр. 46 нашага часапісу), коратка ўспаміналася, што раскопкі на Менскім Замчышчы ў 1949 г. выявілі частку фундамэнту найстарэйшае менскае царквы з XII в. У 1950 г. вяліся далейшыя раскопкі Замчышча і аб іхных выніках нядаўна зьявілася кароткая справаздача ў Кратк. Сообщ. И.ИМК АН СССР Вып. XLIV, Москва 1952, стар. 125-132. Відаць удзельнік раскопак В. Р. Тарасенко ў гэтай справаздачы перш апісвае ход самых раскопак, пералічае галаўнейшыя знойдзеныя рэчы і ўканцы гаворыць аб самой царкве. Адтуль даведваемся, што тымчасам раскопана і дасьледжана толькі аўтарную частку фундаманту царквы. Яна была грохабсыдная. Усе тры абсыды паўкруглыя, але сярэдняя значна большая і высунутая ўпярод. Шырыня (нутра сьвятыні) 9 мэтраў, а даўжыня тымчасам дакладна ня ведамая, але прыблізна яна можа сягаць да 20-25 мэтраў. Сьцены даволі тоўстыя да 1,5—1,6 м. Для гісторыі беларускае архітэктуры гэтая сьвятыня характэрная тым,



ПЛЯН РУІНАЎ ЗАМКАВАЕ ЦАРКВЫ.

1 — каменьні першага раду зьверху; 2 — каменьні другога раду; 3 — каменьні трэцяга і наступных радоў; 4 — каменьні разбурэньня; 5 — зарысы грабаў; 6 — абліцоўка вапеннымі пліткамі; 7 — бярвеньні асновы падлогі; 8 — плошча асновы слупоў, унутры якое каменьні замацаваныя вапнаю.

што была пабудавана выключна з гранітных крыху абчэсаных камянёў на вапенным растворы. Нутро было абліцавана вапеннымі пліткамі. Пліткі былі гладка абчэсаныя ў форме цэглы, але самое цэглы да будовы ня ўжывалася.

У аўтарнай часьці царквы яшчэ захаваліся дзераўляныя падваліны, на якіх ляжала падлога. Там-жа знойдзена якраз пад аўтарам камень залажэньня.

Дасьледнікі дагадваюцца, што гэтую царкву пабудаваў першы менскі князь Глеб Усяслававіч (1101-1119), але праўдападобна яна прастаяла вельмі нядоўга і была зруйнавана кіеўскім князем Уладзімерам Манамахам ў 1119 г. Тады Менск быў амаль зусім разбураны.

Варта зацеміць, што ў летапісах, якія дайшлі да нашых дзён, няма ніякага ўспаміну ані аб пабудове, ані аб зруйнаваньні гэтае царквы, тым самым выяўляецца яшчэ адзін лішні раз, як няпоўна ведама наша гісторыя, бо старыя беларускія летапісы сьведама, ці нясьведама панішчана.

Тыя-ж раскопкі з 1950 г. выявілі, што на руінах мураванае царквы потым былі пабудаваныя дзьве, адна пасьля другое, дзераўляныя капліцы, але яны так-жа праіснавалі нядоўга. З таго часу паходзіць некалькі гробаў. Касьцякі і вопратка ў гробах захаваліся толькі часткова; відаць яны былі пашкоджаны ў часе пажару, бо дошкі двох дамавінаў абгараныя.

Між іншымі знаходкамі на Менскім Замчышчы на асаблівую ўвагу заслугоўвае залаты браслет. Знойдзена яго ў аўтарнай часьці царквы недалёка ад дзіцячага гробу. Браслет зьвіты з трох тоўстых падвойных залатых дроцікаў, канцы-ж яго аформлены памастацку стылізаванымі зьмяінымі галавамі. Да гэтага часу знаходзілі падобныя браслеты са зьмяінымі галавамі толькі на Беларусі, у Летуве і Латвіі, дзе быў калісьці культ зьмеяў, значыць гэтая знаходка ёсьць важным дакумантам духовага жыцьця нашых продкаў у XII ст. Для гісторыі беларускага мастацтва гэты браслет вартасны тым, што выяўляе новага нязнанага паімені майстру-юбілера такога-ж узроўню, як Лазар Богша ў Полацку. Бязумоўна, што ў Менску мусіў быць і свой дойлід, які будаваў царкву, бо яна мае шмат характэрных азнакаў, якіх няма у ніводнай, іншай ведамай нам тагачаснай муравапай сьвятыні.

Колькі яшчэ тайнаў крыюць руіны беларускіх гарадоў і вёсак?!

**а. Л. Гарошка.**

# Яшчэ аб Горадні

Побач Полацку, Смаленску, Турава, Пінску, Віцебску, Вільні таксама Горадня зьяўляецца магутнаю памяткаю беларускае дзяржаўнасьці і ня пісанай, а ў камені выказнай гісторыі нашае старое культуры.

Раскопкі, якія праводзілі палякі ад 1930 г. ў Горадні, а паводля вестак вядуцца і цяпер бальшавікамі, хаця і ня зусім даступныя для беларускіх археолёгаў і этнографаў, аднак сваімі беларускімі асаблівасьцямі на толькі ясныя, што ані палякі, ані бальшавікі не змаглі іх у поўні зацьміць, або выкрывіць.

Вось крыху гісторыі раскопкаў і топографічнае арыентацыі.

Над паўночным берегам Нёмана ўздыймаюцца тры важныя ўзгоркі: адно з іх усходняе мае на сабе «Новы Замак» пабудаваны Аўгустам Саскім; на сярэднім ўзгорку — «Замкавай Гары» Сьцяпан Батура выбудаваў «Стары Замак», а на захад ад ея высіцца «Клажанская Гара» са слаўнай Барыса-Глебскай царквою.

Старадаўнасьць Горадні была агульна ведамай і прызнанай, аднак да 1930 г. ня была абгрунтаваная ніякімі навуковымі досьледамі. Таму Калажанская царква была нявыясьненым фактам і неадчытаным памятнікам мінуўшчыны.

Толькі ад 1930 г. раскопкі на гары «Старога Замку» з кожным годам кідалі больш і больш сьвятла на мінулае Горадні, а гэтым самым і нашае краіны. Гэтыя раскопкі спрычыніў прыпадак. У сувязі з 350-гадовым юбілеем Баторага, палякі задумалі аднавіць ягоны «Замак». Нагляд над гэтай работай у сэнсе гістарычнае аховы, даручана дырэктару горадзенскага гарадзкога музэю Язэпу Ёдкоўскаму. Гэты чалавек, хоць і ня быў беларусам, сваёй унікліваьсцю ў гісторыю і чэснасьцю яе паясьненьня, як таксама любоўю да Горадзеншчыны, бязумоўна заслугоўвае з нашага боку на прызнаньне, пашану і сымпатыю. Гэта дзякуючы ягонай ініцыятыве былі таксама праведзены раскопкі на «Швэдзкай Гары» пад Ваўкавыскам і зьяўляюцца так-жа паважнай гістарычнай здабыччу.

Падчас нівэляцыі замковае плошчы, Ёдкоўскі заўважыў сьляды будовы і хаця гэта ня было ў пляне «аднаўленьня», пачаў на сваю руку капаць замчышча ўглыб, замест «раўняць».

Ужо першыя дні паказалі апраўданьне ягонае ініцыятывы. Раскрыта сьляды найстарэйшага, дасюль ведамага, аселішча над Нёманам. Я сам аглядаў у 1934 і ў 1938 г. раскопкі і тут хачу коратка расказаць аб іх.

Ужо тады раскопкі былі праведзеныя на 6-8 мэтраў углыб ад ўзроўня фундамантаў «Баторавага Замку». Зямная сьцяна раскопак, як архівальныя акты, верна захавала сьляды мінуўшчыны далёкіх стагодзьдзяў. Апісаная ў Нр. 46 «Божым шляхам» замкавая Ніжняя царква аказала-

ся сястрою ведамае раней Калажанскае царквы. Пачатак гэтае будовы ўстаноўлена на першую палавіну XII стаг.

Але замкавая Ніжняя царква аказалася пабудаванаю на фундамантах яшчэ старэйшае будовы. Побач сьлядоў хрысьціянскае эры, там знойдзена таксама ахвярны камень з паганскае пары. Апрача матэрыялу для рэлігійнае гісторыі знойдзена так-жа і старыя прадметы хатняга карыстаньня,як: тапары, малаткі, зброю і інш.

Сьцяна раскопак паказвае сваім напластаваньнем на розныя эпохі будаўніцтва. У ёй можна бачыць, як паступова пераходзіла будаўніцтва ад каменя праз плоскую цагліну з эмаліяй, наступна праз ґотыцка-рымскую цагліну аж да будаўнічага матэрыялу з XVII стаг.

У 1935 г. Ёдкоўскі апублікаваў свае заўвагі аб раскопках, што спрычынілася да ўтраты дасюлешняга становішча, як археолёгічнага кіраўніка раскопак. Дастаў «павышэньне» супраць свае волі, яго перанесена ў Варшаву. Ад тае пары раскопкі праводзіліся пад наглядам Варшаўскага унівэрсытэту, а ня Віленскага, як гэта лёгічна павінна было-б быць.

Новы кіраўнік раскопак З. Дурчэўскі важнейшыя выкапні адпраўляў у Варшаву, пакідаючы на мейсцы толькі тое, чаго нельга было забраць і драбязу.

На аснове першых раскопкаў Ёдкоўскі рабіў такія выснаўкі: Пачатак Гордні сягае X стаг., калі яна вырасла з рыбацкае асады ў гандлёвы цэнтр, з якога потым паўстае адміністрацыйна-арганізацыйная адзінка, княства, задакумэнтаванае ў раскопках першым замкам са сваею асаблівою будовай. Час пабудовы замкавае Ніжняе царквы гэта ўжо XI, XII век, калі ўжо было моцнае княства, эканамічна багатае, аб чым сьведчыць знойдзеная зброя, прылады хатняга карыстаньня і манэты (знойдзена на гары, акрамя мяйсцовых, рымскія, нарманскія і нават арабскія), а так-жа біжутэрыя. Потым прыходзяць катаклізмы; татарскі напад у першай палавіне XIII в. Збуранае замчышча, папялішчы пажараў зямля перахоўвае непарушна. А потым змаганьне з крыжакамі — знойдзеныя ў Нёмане крыжацкія мячы і шчыты, кажуць, што змаганьне за незалежнасьць было вельмі зацятае. На руінах адбудоўвалася новае жыцьцё На старых фундамантах і румовішчах вырастае Вітаўтаў замак, збудаваны ў стылі крыжацкіх цьвярдыняў, але і гэты замак падае, каб зрабіць мейсца пазьнейшаму замку Баторага.

Дурчэўскі ня зусім гадзіўся з выснаўкамі Ёдкоўскага. У сваёй кніжцы, апублікаванай ў 1939 г., Дурчэўскі пачатак Горадні стараецца аднесьці толькі да XI стаг., паганскі аўтарны камень хоча ўмясьціць у культурным пласьце гораду і інш.

Тут трэба зацеміць, што раскопкі рабіліся не на ўсёй гары, а толькі на яе паўднёвым рубяжы, дзе адно замковае крыло асунулася ў Нёман. Трэба лічыць, што не адну гістарычную неспадзеванку крые ў сабе плошча, на якой стаіць сучасны замак Баторага. Але відаць, што яшчэ ня мала трэба будзе чакаць да часу поўнага адчытаньня мінуўшчыны Горадні.

Калажанская царква, як і агулам раскопкі на Замкавай гары — гэта старая мэтрыка нашае дзяржаўнасьці і ніхто ня зможа яе прысабечыць, бо гарадзенскія раскопкі раскрылі тую веліч нашае бацькаўшчыны, аб якую разьбіваюцца ўсе пасяганьні ворагаў да нашае зямлі.

Вельмі характэрныя адносіны бальшавікоў да стараветных памятак Горадні. У 1945 г. Акадэмія Навук БССР дэлегавала ў Горадню праф. В. Галубовіча, але працаваў ён там нядоўга. У 1948 г. ён апублікаваў артыкул папольску ў пэрыёдыку **Slavia Antiqua** Нр. 1 аб родавых знаках на выкапаных рэчах у Горадні. А ўжо ў 1949 г. далейшыя досьледы Гарадзенскага замчышча бярэ чамусьці Акадэмія Навук СССР, дэлегуючы ў Горадню сваіх прадстаўнікоў у колькасьці 5 чалавек на чале з Н. Н. Вороніным і яго заступнікам А. В. Нікітіным. Да іх з гарадзенскага музэю далучана яшчэ шасьцёх супрацоўнікаў, але між імі ня было ніводнага беларуса — такі склад навуковае экспэдыцыі для дасьледаваньня старога беларускага гораду гаворыць сам за сябе, якія былі мэты гэтае экспэдыцыі. Але напярод можна сказаць, што дарэмныя ўсе натугі непаклікаaных апякуноў сфальшаваць нашу гісторыю. Як нашае хрысьціянства, так і нашая гісторыя і нашая культура маюць глыбокія своеасаблівасьці і астануцца заўсёднымі сьведкамі незалежнага жыцьця беларускага народу.

Адведвальнік гарадзенскіх раскопкаў можа ясна ўбачыць, што той народ, які калісьці стварыў такія высокакультурныя памяткі, змагаўся за сваю незалежнасьць, адбудоўваў зруйнаванае, — ён і сёньня пражывае навокал Горадні, і да яго, да беларуса, належыць выключнае права быць гаспадаром на сваёй зямлі.

**І. Ігарэвіч.**

# Нэрвы ня вытрымалі

— Ну вось, Марыся, кончыў я ўжо на сёньня свае лясныя заняткі і магу табе крыху памагчы да Каляд рыхтавацца, што там у цябе на парадку дня...

— Тата, мне, мне памажы ялінку ладзіць. — Перабіў гаворку лясьнічага аб'езчыка ягоны сямігадовы сынок Косьцік і адразу ўчапіўся за бацькаву руку, цягнучы яго да ялінкі.

— Ах ты, жэўжык, дык ты гэтак маму любіш? — нібы з дакорам, але сьмяючыся казала маці, гледзячы на сына.

Стук у дзьверы раптам спыніў ажыўленьне ў хаце. На заклік «Увайдзеце» ў дзьверах зьявіўся стражнік з недалёкае лясьнічоўкі, нясучы ліст аб'езчыку з акруговае ўправы.

Аб'езчык перабег вачыма ліст і моўчкам пагля-дзеў на жонку.

— Што-ж там гэткае, Андрэй? — неспакойна пыталася жонка.

— Усе нашыя пляны на сёньня пакрыжаваліся. Нечага сьпешна выклікаюць у акруговае надлясьніцтва ў пільнай справе. Трэба ехаць неадкладна. Буду старацца вярнуцца яшчэ сёньня вечарам, а калі не дык заўтра рана, словам каб пасьпець на Куцю.

— Але-ж ты ня баўся там.

— Верхам на Буланым я спраўлюся хутка, калі якое затрымкі ў надлясьніцтве ня будзе. Шкода, што ня пішуць у чым справа.

Праз паўгадзіны ў хаце аб'езчыка сталася зусім ціха. Марыся ўвіхалася ў кухні, а Косьцік займаўся каля ялінкі. За хатаю навокал была няшырокая смуга поля, укрытая сьнегам, а далей прасьцягаўся густы лес. Навокал была мёртвая цішыня. Хата аб'езчыка стаяла зусім на адлюдзьдзі; найбліжэйшае людзкое жыльлё знаходзілася за якіх два кілямэтры.

Калі пачало сутанець, Марыся запаліла лямпу і далей працавала ў кухні. Да яе прышоў сын і пачаў распытваць аб нараджэньні Хрыста.

— Мама, а як ведалі цары, што Хрыстос радзіўся?

— Бо яны былі ня толькі цары, але і знахары, мудрацы, што ўмелі адгадваць усё, што дзеецца ў сьвеце па зорках і па іншых знаках.

— А як яны навучыліся гэтак гадаць?

— Так ім Бог даў.

— Вот яны мусіць ішлі з вялікаю славаю. — Тут хлапчына надзьмууўся і пачаў маршыраваць навокал стала, як які важны пан.

— Усяляк ішлі. Толькі ты тут асьцярожна маршыруй, каб ня вывярнуць паўміска, а то дастанеш на чай і ласку страціш.

— Мама, а чаму Гэрад не пайшоў разам з мудрацамі? — Спыніўшыся каля, маці Косьцік прадаўжаў свае распытваньні.

— Бо Гэрад быў заздросны і люты чалавек. Ён хацеў падступна загубіць Хрыста.

— От паганец, каб я тады быў, я-б яму паказаў...

— От ты не паказвай свае дурасьці. Даўней, як і цяпер на сьвеце адны стараюцца ўшанаваць Хрыста, а другія, каб Яго забіць, каб людзям шкодзіць...

Пачуўся моцны стук у дзьверы і гутарка сьціхла. Стук паўтарыўся яшчэ мацней. Марыся чуючы нядобры стукат, адразу загасіла лямпу і накіравалася ў сені.

— Хто там?

— Адчынеце! — пачуўся прыглушаны голас з-за дзьвярэй.

— Але хто там?

— Падарожныя, адчынеце!

— Чаго хочаце?

— Адчынеце, тады пагаворым.

— Вось ідзеце па-добраму сваею дарогаю. — Пагрозьліва закрычала Марыся і больш не адзывалася.

Стук паўтарыўся яшчэ некалькі раз і паволі каля дзьвярэй усё сьціхла. Толькі ля вакон мігнула некалькі ценяў. Косьцік прытуліўся да маці і ціха шаптаў:

— Мама, хто гэта быў?

— Мусіць гэткія самыя, як Гэрад.

Пастаяўшы хвіліну ў сенях, маці і сын увайшлі ў хату і не запальваючы сьвятла паселі ля стала. Праз якіх мінут 20 зноў замігалі цені ля вакон, зноў паўтарыўся стукат, зноў «падарожныя» прасіліся ўвайсьці ў хату. Марыся не адказвала нічога, яна стаяла ў сенях моцна сьціскаючы ў руках дубальтоўку.

Пачакаўшы з паўгадзіны, Марыся засьвяціла лямпу і пачала рыхтавацца да вячэры, але моцны стук у дзьверы зноў спыніў яе. Гэтым разам яна рыўком кінулася да лямпы і, згасіўшы яе, ухапіла дубальтоўку ды выбегла ў сені. Стукат і крык за дзьвярыма сьціхлі, але нэрвы ў Марысі былі так напятыя, што яна ўжо нічога не магла рабіць. Сэрца так моцна стукалася ў грудзёх што аж у вушох шумела.

Праз якую гадзіну яшчэ раз паўтарыўся стукат «падарожных». Косьцік моўчкам стаяў ля маці і адчуваў, як яна ўся калацілася. Калі за дзьвярыма зноў усё заціхла, Марыся села ля вакна і чакала, што «падарожныя» зноў вернуцца. І сапраўды па нейкім часе пачуўся лёгкі стук у дзьверы.

Гэтым разам Марыся нічога ня кажучы, запаліла лямпу і перадала яе Косьціку, а сама ўхапіла дубальтоўку і накіравалася ў сені. Там моцным шэптам гаварыла да сына:

— Ты сьвяці і паволі адчыняй дзьверы, а я буду бачыць, што рабіць.

Марыся стала на баявы лад, дула дубальтоўкі накіравала ў дзьверы, а Косьцік, адкінуўшы зялезную засоўку, паволі пачаў адчыняць дзьверы. За дзвярыма спакойна стаяў чалавек. Убачыўшы дула дубальтоўкі, ён крыху адхіснуўся і прамовіў толькі адно слова:

— Марыся!

Голас мужа, бо гэта быў Андрэй, які Марыся заўсёды люба чула, цяпер падзейнічаў на яе быццам гром; яна як скошаная трава, асунулася долe, дубальтоўка бразнулася аб падлогу, але ня выстраліла. Андрэй кінуўся ратаваць жонку. Доўга яму давялося ваўтузіцца, пакуль нарэшце яна

адчыніла вочы. У міжчасе Косьцік расказаў бацьку, што было з «падарожнымі». Ачуняўшы, Марыся пыталася:

— Што са мною сталася?

— Нічога, любая. Твае нэрвы ня вытрымлі. Дзякуй Богу, усё скончылася добра, дык цяпер супакойся. Заўтра будзем сьвяткаваць Каляды.

За дзьвярыма цяжка разрозьніць ворага ад найлепшага прыяцеля.

**А. Жменя.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## НОВЫЯ КАРДЫНАЛЫ.

Сьвяцейшы Айцец Пій XII ужо другі раз за час свайго пантыфікату назначыў новых кардыналаў. Гэтым разам з Ватыкану дня 30-XI падана да ведама, што 24 царкоўных дастойнікі атрымалі кардынальскую годнасьць. Урачыстая перадача кардынальскіх азнакаў адбудзецца 12 студзеня н. г. Між новых кардыналаў ёсьць 11 італьянцаў, 2 французы, 2 гішпанцы і па адным: амэрыканец, бразілец, ірляндзец, калюмбіец, канадыец, немец, паляк, экватарыец, і югаслаў. Адначасна Я. Экс. Монтіні і Я. Экс. Тардіні назначаны просакратарамі ў Сакратарыяце Стану.

У Польшчы і ў Югаславіі назначэньне кардыналаў дало нагоду да супрацькаталіцкіх выступаў камуністычнае прэсы.

## УПРАШЧЭНЬНЕ КАРДЫНАЛЬСКАГА АДЗЕНЬНЯ.

Адначасна з назначэньнем новых кардыналаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў дэкрэт аб зьменах у кардынальскім строю. Ад гэтага часу кардынальская сутана так пурпуровая, як і фіялетавая не павінна мець хвосту. Так званая «капа магна» мае быць даўжынёю толькі 3,5 мэтры замест ранейшых 7. Фіялетавыя сутаны павінны быць з ваўнянае тканіны, а не з шоўку, аднак кардыналы, якія маюць папярэдне зробленыя шаўковыя сутаны, могуць імі карыстацца і далей. Гэтае распараджэньне абумоўлена сучаснымі матэрыяльнымі цяжкасьцямі і асабліва неабходнасьцю духавенства дастасавацца да ўпрошчаных і цяжкіх умоў жыцьця.

## АДНОСІНЫ ЦАРКВЫ ДА СПОРТУ.

Прымаючы на спэцыяльнай аўдыенцыі ўдзельнікаў навуковага кангрэсу, прысьвечанага гімнастычнай і спартовай дзейнасьці, што адбыўся ў Рыме на пачатку сьнежня, Сьвяцейшы Айцец Пій XII сказаў вялікую і глыбокую зьместам прамову, праводныя думкі якое коратка можна падсумаваць так:

Мэтай спорту ёсьць разьвіцьцё душы і цела чалавека, дзеля гэтага трэба паўстрымоўвацца ад такіх фізычных управаў, якія не ўзгляднiваюць гэтага падвойнага заданьня. Цела бязумоўна трэба шанаваць, але не пераацэньваць залішне. «Мой кліч — сказаў Сьвяцейшы Айцец — ёсьць такі: дбаньне пра цела, узмацненьне цела — так; культ цела, абагаўленьне цела, не; гэта не павінна мець мейсца таксама як абагаўленьне расы, крыві... Цела не займае першага мейсца ў чалавеку. Пяршынство належыць духу, духовай душы». Ёсьць некаторыя спартовыя ўправы, якія акелзваюць інстынкты, вымагаюць паўстрыманьня, але ёсьць і такія, якія наадварот вядуць да гвалтоўнасьці, або да пабуджэньня змысловасьці. Нават да эстэтычнага пачуцьця, да прыемнасьці красы, да рытму танцу і гімнастыкі інстынкт можа ўнесьці атруту для душы. Празьмерны нудызм у спорце і ў рытмічных танцах ня ёсьць бязумоўна неабходным, ані прызваітым. Агулам спорт і гімнастыка не павінны ані камандаваць, ані валадарыць, але мусяць служыць і памагаць.

## КАРДЫНАЛ СЭГЮРА АСЬЦЕРАГАЕ ПЕРАД ФАЛЯНГАЮ.

Сэвільскі кардынал Я. Эм. Пятро Сэгюра забараніў сэмінарыстам свае дыяцэзіі ўдзельнічаць у летніх лягэрах для моладзі, арганізаваных фалянгістамі, таму, што гэтыя лягэры маюць істотна палітычную мэту, а Царква мусіць быць па-за палітыкаю, якая прынесла толькі няшчасьця.

## АСУЖДАНЬНЕ КАМУНІСТЫЧНАГА РУХУ ПАД КЛІЧАМ «ЗА МІР».

У меру таго як вольны сьвет пазнае дакладней аблуднасьць камуністычнае дзейнасьці і прапаганды дык камуністы штораз больш стараюцца хаваць сваё сапраўднае аблічча пад рознныя прыгожыя клічы і праграмы. Ад пару гадоў яны вядуць шырокую прапаганду пад клічам «за мір ува ўсім сьвеце». Склікаюць пад гэтым клічам частыя кангрэсы. Такі кангрэс адкрыўся 12 сьнежня ў Вене (Аўстрыя). У зьвязку з гэтым кангрэсам Ватыканскае радыё падало зьмястоўнае выясьненьне становішча Каталіцкае Царквы да гэтага руху. Царква жадае міру, але сапраўднага міру і садзейнічае да яго асягненьня ўсімі сіламі, аднак калі нейкія палітычныя групы словам «мір» прыкрываюць свае супрацьхрысьціянскія мэты, дык такі рух Царква асуджае з усёю рашучасьцю.

## КАТАЛІЦКІ СЬВЯТАР У МАСКВЕ.

Савецкая амбасада ў Вашынгтоне дня 8-XII дала візу на ўезд у СССР амэрыканскаму каталіцкаму сьвятару а. Юрыю Біснэт, які мае замяніць а. Артура Бразар — адзінага каталіцкага сьвятара

для каталікоў чужынцоў у Маскве. Усякі кантакт з каталіцкімі грамадзянамі СССР яму ўнемагчымлены.

### СПРАВА ЦАРКОЎНЫХ ЗЕМЛЯЎ У ГРЭЦЫІ.

Грэцкая Праваслаўная Царква 18-IX падпісала дагавор з дзяржаваю адносна камасацыі царкоўных і манастырскіх земляў. Паводля гэтага дагавору Царква зракаецца дзяржаве 4/5 сваіх ворных земляў і 2/5 сваіх лугоў, але пад умоваю, што яны мусяць быць распарцэляваны паміж беднымі і малазямельнымі сялянамі. За іх дзяржава мае выплаціць каля трэцяе часткі іхняе вартасьці.

### ЗАВАСТРЭНЬНЕ НА СУПРАЦЬРЭЛІГІЙНЫМ ФРОНЦЕ Ў ЮГАСЛАВІІ.

Апошнім часам югаслаўская камуністычная прэса апублікавала некалькі вострых нападаў ня толькі супраць Каталіцкае Царквы, але так-жа і супраць Праваслаўнае. Прычынаю да гэтага паслужыла адмова, Сыноду Сэрбскае Праваслаўнае Царквы прызнаць Саюз Праваслаўнага Духавенства. Гэты Саюз, заснаваны з ініцыятывы камуністаў у 1947 г. ужо ў 1951 г. меў у сваіх сьпісках 1650 праваслаўных сьвятароў з агульнага ліку 2300. Тое, што ня ўсе сьвятары ўвайшлі ў Саюз, дзяржава ўважае за выяўленьне варожасьці духавенства супраць камунізму. Камуністычны ўрад не дае харчавых картак і ня прызнае права грамадзкага страхаваньня для тых сьвятароў, якія адмовіліся належаць да Саюзу.

Назначэньне Я. Эксц. Стэпінача кардыналам камуністычная прэса назвала выяўленьнем варожасьці Ватыкану супраць Югаславіі і ўмешваньнем у яе ўнутраныя справы.

### СУПРАЦЬРЭЛІГІЙНЫ НАСТУП У БАЎГАРЫІ.

Зьліквідаваўшы ўсю каталіцкую ерархію ў Баўгарыі, камуністы ажывілі бязбожную дзейнасьць між праваслаўным духавенствам. Там ужо ад 1946 г. існуе, заложаны камуністамі, Саюз Баўгарскага Духавенства, які цяпер ачолівае Богданоў — сябра камуністычнае партыі. Гэты саюз выдае часапіс «Народэн Пастыр» паводля інструкцыяў атрыманых з Масквы. Апошнім часам старшыня Саюзу распачаў кампанію, каб «мадэрнізаваць рэлігію».

### ЗАВОСТРАНЬНЕ АДНОСІН МІЖ ДЗЯРЖАВАЮ І ЦАРКВОЮ Ў ПОЛЬШЧЫ.

Ад мінулага году да нядаўна ў Польшчы між урадам і Каталіцкаю Царквою было быццам замірэньне, але апошнім часам у Кракаве арыштавана 5 сьвятароў спаміж блізкіх супрацоўнікаў архіб. Базяка і адначасна камуністычная прэса пачала расьпісвацца аб розных «злочынах» польскага каталіцкага духавенства. Пасьля назначэньня Я. Экс. Вышынскага кардыналам, пасыпаліся абвінавачаньні і на яго затое, што «ён стараўся абяліць супрацьпольскую палітыку Ватыкану».

### ПЛЯНЫ ГРЭЦКІХ КАМУНІСТАЎ.

Паводля верагодных вестак цэнтральны камітэт грэцкае камуністычнае партыі ў Расеі даў інструкцыі сваім падпольным дзеячом у Грэцыі, каб яны высылалі для сьвячаньня ў праваслаўныя сьвятары дзейных камуністычных агэнтаў.

### УЗНАГАРОДЖАНЬНЕ САВЕЦКАГА ПАТРЫЯРХА

Нядаўна амаль усе савецкія афіцыяльныя газэты падалі да ведама ўказ Прэзідыюма Вярхоўнага Сав. СССР з дня 8 лістапада, які на толькі цікавы, што перадрукоўваем яго даслоўна паводля «Звязды».

«У сувязі з сямідзесяціпяцігодзьдзем нараджэньня Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксея і азначаючы яго выдатную патрыятычную дзейнасьць, як у пэрыяд Вялікай Айчынчай Вайны, так і пасьля яе — узнагародзіць Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксея ордэнам Працоўнага чырвонага сьцяга».

Да гэтага кароткага паведамленьня варта дадаць, што патрыярх Аляксей ужо раней атрымаў розныя нагароды: 16-VIII-1946 атрымаў першы раз ордэн Чырвонага сьцяга, значыць цяпер ён ужо двойчы ардэнаносец — рэдка хто з высокіх камуністаў мае такі гонар. Да таго ён мае два мэдалі: 11.X.1945 «За абарону Ленінграда» і 31.VIII.1945 «за доблестный труд» у часе Айчыннае вайны. Дзіўна, што апошняя нагарода даецца маскоўскаму патрыярху ярказ тады, калі ў Баўгарыі растрэльваюць каталіцкае духавенств, а ў іншых падсавецкіх краінах узмацняецца супрацькаталіцкі наступ.

### АБ ЧЫМ МАЎЧЫЦЬ САВЕЦКАЯ ПРЭСА?

Вестак з рэлігійнага жыцьця ў СССР трапляе ў друк вельмі мала нават на старонкі «Журнала Маск. Патр.», аднак не зважаючы на гэта праўда часам вылазіць як прыказкове шыла з мяшка. У савецкім «Правосл. Церк. Календаре» на 1952 г., выданым Маскоўскаю Парыярхіяю, паданы фатаграфіі ўсіх сучасных савецкіх «праваслаўных» ерархаў у СССР (разам 65) і загранічных ерархаў, залежных ад Маскоўскага патрыярха. Але чамусьці між савецкіх ерархаў няма нідзе архіяп. Антонія (Марценко), які рэпатрыяваўся ў 1946 г. у СССР з Чэхаславаччыны разам з яп. Даніілам Юзьвюком (арыштаваным у 1950 г.). Архіяп. Антоній займаў перш Арлоўскую, а пасьля Тульскую епархію, але апошнім часам аб ім нігдзе не ўспаміналася. Відаць, што гэта ўжо восьмы з чаргі савецкі ерарх, арыштаваны ад 1948 г. Да гэтага ліку трэба дадаць чатырох ерархаў з быўшае Украінскае Аутаномнае Царквы, арыштаваных яшчэ ў 1944 г. Уся савецкая прэса, у тым ліку і Журн. Маск. Патр. маўчаць аб долі ўсіх гэтых ерархаў, як маўчаць аб долі ўсіх каталіцкіх ерархаў арыштаваных на абшары СССР.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Новае «духавенства».

Сёлета 22-VI з Жыровіцкае савецкае «праваслаўнае сэмінарыі» вышаў ужо чацьвёрты з чаргі выпуск новых кандыдатаў на савецкіх «духоўных» для Беларусі і Прыбалтыкі. Чытаючы напамін менскага архіяп. Піцірыма да выпускнікоў мімаволі прыходзіцца слова «духоўны» браць у двукосье, бо паводля ягоных слоў галоўнаю мэтаю сучаснага савецкага «праваслаўнага душпастыра» павінна быць савецкая прапаганда «за мір ува ўсім сьвеце».

### Багацьці Беларусі.

Нядаўна ў Менску выяўлена мінэральная лячэбная вада. Досьледы паказалі, што яе хэмічны склад мае хлёрыдна-натрыявыя солі падобна як мінэральныя крыніцы Друскенік, Бабруйска і Старае Росы. Яна прыдатная да лячэньня рэўматызму, нэрвовых і тінэколёгічных захворваньняў. Прасьвідравана ўжо адну адтуліну для пампаваньня вады каля новага будунку больніцы. Але хто з гэтае вады будзе карыстацць?

### Беларуская соль.

Яшчэ да гэтага часу залежы солі на Беларусі не выкарыстоўваюцца, але ў новым пяцігодным пляне прадбачваецца стварэньне хэмічнае прамысловасьці ў БССР на базе выкарыстоўваньня багатых залежаў паваранная і калійнае соляў. Відаць, што зноў беларусы са свае солі не скарыстаюць.

### Рэдкія музычныя здольнасьці.

Летась савецкія газэты паведамілі, што ў Баранавічах маленькая Хрысьціна Паплаўская выяўляе надзвычайныя музычныя здольнасьці. У міжчасе, яе разам з бацькамі перавезена ў Менск. Сёлета Хрысьця, маючы толькі чатыры з палавінаю гады, наведвае музычную кансэрваторыю і вучыцца граць на піяніне. З ёю займаецца доцэнт Г. І. Шаршэўскі — вычыць граць на ўслаўленьне Сталіна.

### Русыфікацыя ўсё ўзмацняецца.

Камуністычная партыя назначыла Інстытуту Мовазнаўства пры Акад. Нав. БССР цэлы рад тэмаў для апрацаваньня, між іншым на найбліжэйшы час мусяць апрацаваць манаграфію: «Аб ролі расейскае мовы ва ўзбагачэньні лексікі беларускае мовы».

### Узнагароды МВД-ыстам.

Вялікая група агентаў МВД (калішняе НКВД) ужо другі раз сёлета атрымала розныя нагароды — ордэны і мэдалі «за выслугу гадоў і за бездакорную службу ў органах МВД і МУС». Другі раз нагароду атрымала 104 агентаў. Прозьвішчы кажуць, што нагароджаныя ўсе расейцы. Ордэн Леніна атрымалі камуністы А. Е. Удакімаў і А. А. Ульянаў. Відаць, што мучыцелям беларускага народу не шкадуюць нагародаў.

## АНГЛІЯ.

### Даклад для ангельцаў.

На запросіны сяброў ангельскае арганізацыі маладых кансэрватыстых у Фінслей старшыня ЗБВБ А. Надсон прачытаў даклад у ангельскай мове аб савецкай беларускай школе. Даклад, ілюстраваны шматлікімі фактамі і статыстычнымі данымі, выклікаў вялікае зацікаўленьне ў слухачоў.

### Зборкі Адзьдзелу БАКА «Рунь» у Лёндане.

Пасьля летняга перапынку Лёнданскі Адзьдзел БАКА «Рунь» распачаў зноў сваю дзейнасьць. Як і ў мінулым годзе адноўлена месячныя зборкі ў кожную першую нядзелю месяца з багаслужэньнем, супольным абедам, дакладам, дыскусіяй ды інфармацыяй з міжнароднага і беларускага каталіцкага жыцьця. Згодна з гэтай праграмай дня 2-XI а.др Ч. Сіповіч прачытаў даклад аб літургіі. Дня 7-XI даклад меў запрошаны госьць а. Бранчанінаў на тэму «Сьв. Аўгустын». На наступных зборках прадбачацца даклады на наступныя тэмы: «Кардынал Ньюман», «Сьв. Ёзафат Кунцэвіч», «Каталіцызм і праваслаўе» і інш.

### Міжнароднае спатканьне.

Ангельская каталіцкая унівэрсытэцкая арганізацыя «Ньюман Эсоўсэ'шн» ладзіла 18 лістапада ў сваім памешканьні тавараскае спатканьне з нагоды прыезду у Лёндан на канфэрэнцыю старшынь міжнародн. катал. арганізацыяў віцэстаршыні «Пакс Романа», др. Вэрснэзэ і гэнэральнага сакратара «Пакс Романа» праф. Сугранiез. Ад «Руні» на спатканьні былі прысутныя а. Ч. Сіповіч і А. Надсон.

Наступнага дня вечарам праф. Сугранiез быў госьцем Польскага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Вэрытас». На зборцы былі госьці ад беларускае «Руні» і ад украінскае «Обновы».

## АЎСТРАЛІЯ.

### Угодкі Слуцкага Паўстаньня.

У днёх 24-30 кастрычніка архіяп. Сяргей галава БАПЦ адведаў беларусаў у Брысбэне. Пры гэтай нагодзе ён адслужыў паніхіду за палёглых случчакоў і малебень за беларускі народ.

## БЭЛЬГІЯ.

### З жыцьця беларускіх студэнтаў.

Сёлета новы акадэмічны год у Лювэне распачаўся 6 кастрычніка. Беларуская студэнцкая гру-

па ў Лювэне лічыць 32 чалавекі, у тым ліку 4 новапрыехаўшыя.

Адначасна з пачаткам акадэмічнага году ажывілася праца Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў у Лювэне. Дня 23 кастрычніка адбыўся агульны сход ЗБС. Пасьля справаздачы старшыні ўступаючае ўправы В. Рамука і старшыні рэвізійнае камісіі У. Цьвірка адбылася жывая дыскусія над дзейнасьцю ЗБС у мінулым годзе. Уканцы выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — А. Занковіч, заступнік старшыні — А. Арэшка, сакратар — В. Сенкевіч, скарбнік — Ю. Сенькоўскі, сябра ўправы і адміністратар — М. Ягоўдзік.

Хор беларускіх студэнтаў ужо даў некалькі канцэртаў у розных гарадох Бэльгіі, а 6 і 7 сьнежня частка хору адведала Францыю.

Імя белрускіх студэнтаў у Лювэнскім унівэрсытэце ўжо карыстаецца на толькі вялікай пашанай і даверам, што сёлета старшынёю міжнароднага студэнцкага аб'еднаньня ў Лювэне выбрана беларуса.

## З. Ш. А.

### Арганізацыйнае жыцьцё.

У **Кліўляндзе** стараньнем Згуртаваньня Беларускае Моладзі заснаваўся пры Публічнай Бібліятэцы беларускі архіў.

У **Нью Ёрку** 9-га лістапада ў Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва праф. М. Кулікович прачытаў зьмястоўны і дакумантальны рэфэрат аб «Старадаўным інтанацыйна-ладовым фармацыям у беларускім песенным фальклёры». Паважны паводля свайго зьместу і салідна апрацаваны рэфэрат удала ілюстравала опэрная сьпявачка Б. Вержбаловіч.

**Дэтройтская радыёстанцыя** пачынаючы ад 13 кастрычніка кожны другі панядзелак між 9,30 - 10 гадз. падае беларускія радыёперадачы на хвалі W-GLB 1400.

У **Лёс Анжэлёс** і ў **Чыкаго** арганізуюцца новыя беларускія парахвіі юрысдыкацыі экзарха Візантыйскага Патрыярха.

З нагоды **32-іх угодкаў Слуцкага Паўстаньня** Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў Адзьдзел у Нью Ёрку дня 30 лістапада ладзіла ўрачыстае ўшанаваньне памяці палёглых беларускіх гэрояў. Раніцаю гэтага дня прэосьв. Васіль яп. БАПЦ адслужыў паніхіду, а папалудні ў Бэтховэн Голл адбылася жалобная акадэмія.

## КАНАДА.

### Актывізацыя арганізацыйнага жыцьця ў Торонто і Монтрэалі.

У сьвятліцы Згуртаваньня Беларусаў ў Канадзе дня 5-Х адбылася ў **Торонто вечарына** з вялікім удзелам моладзі.

У той-жа сьвятліцы 12-Х адбыўся **беларускі канцэрт,** ладжаны гуртком Мастацкае Самадзейнасьці з Монтрэалю.

Пры **Торонтонскім унівэрсытэце** 25-Х распачаў другі год працы лектарат беларусаведы, які і далей вядзе праф. В. Жук-Грышкевіч. З гэтае нагоды наступнага дня ў сьвятліцы ЗБК быў наладжаны Вечар Лектарату Беларусаведы.

Згодна з плянам працы ЗБК дня 2-ХІ праф. В. Жук-Грышкевіч прачытаў у сьвятліцы арганізацыі **даклад** на тэму «Місія беларускае эміграцыі».

У **Монтрэалю** з пачыну мяйсцовага актыву зарганізавалася Беларуская Тэатральная Студыя пад кіраўніцтвам Рамара. Дня 12-Х яна ладзіла **спэктакль.** Былі пастаўлены п'есы: «Паўлінка» Я. Купалы, «Заручыны Паўлінкі» Фр. Аляхновіча і «На вёсцы» Фр. Аляхновіча. Аматары артысты і да таго пачынаючыя не заўсёды маглі належна выканаць свае ролі, але агульнае ўражаньне ў глядачоў было добрае і яны чакаюць далейшых выступаў гуртка самадзейнасьці.

Згуртаваньне Беларусаў у Монтрэалі 1-ХІ разыграла **лётэрэю,** даход з якое прызначана на асьветную працу.

Варта агульнае ўвагі пастанова монтрэальскіх беларусаў даць маладой і здольнай беларусцы **стыпэндыю** для навукі гры на піяніне.

## ФРАНЦЫЯ.

### Новая ўстанова для праўнае апекі над эміграцыяю.

На мейсца калішняга ІРО францускі ўрад зарганізаваў пры Міністэрстве Замежных Спраў спэцыяльную ўстанову «Офіс для Апекі над ўцекакачамі і безьдзяржаўнікамі». Месьціцца гэтая ўстанова ў памешканьні калішняга ІРО пры вул. Копэрніка 7. Амаль адначасна з паўстаньнем гэтае ўстановы французкае Міністэрства Замежных Спраў прызнала беларускую нацыянальньць для беларускае эміграцыі, дзеля гэтага новастворaная ўстанова, выдаючы ўсе неабходныя дакуманты для эміграцыі, выдае так-жа даведкі аб беларускай нацыянальнасьці. За даведкі бярэцца аплата паводля ўстаноўленага тарыфу. Прадстаўніком па беларускіх справах у новастворанай арганізацыі ёсьць а. Л. Гарошка.

### 32-ія ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

Беларуская эміграцыя ў Францыі сёлета годна ўшанавала 32-ія ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ўва ўсіх больш дзейных цэнтрах.

У **Ля Крэзо** дня 23-лістапада была наладжана акадэмія ў салі мяйсцовага Хрысьціянскага Сындыкату. Адчыніў акадэмію старшыня мяйсцовае філіі АБРФ Бр. Нагорны і пасьля адсьпяваньня песьні «У гушчарах» Аў. Трусаў прачытаў рэфэрат аб гісторыі Слуцкага Паўстаньня. На мастацкую частку акадэміі зложыліся дэклямацыі патрыятычных вершаў, гра на баяне маладога баяніста. На заканчэньне ўсе прысутныя адсьпявалі нацыянальны гымн.

**У Рубэ** дня 6-XII а. Аўгень Смаршчок адслужыў паніхіду за палёглых слуцкіх змагароў, а папалудні ў салі мяйсцовага Хрысьціянскага Сындыкату частка студэнцкага хору з Лювэну пад кіраўніцтвам камп. М. Равенскага выканала глыбокую па зьместу і прыгожую па форме патрыятычную дэклямацыйна-сьпеўную вязанку.

**У Парыжу** дня 7-XII рана была адслужана для каталікоў Служба Божая і паніхіда ў беларускай капліцы пры царкве Сан Сюльпіс, а для праваслаўных у украінскай царкве. Папалудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату М. Наумовіч адчыніў урачыстую акадэмію і перадаў слова прэз. Абрамчыку, які вельмі трапна падаў характэрыстыку Слуцкага Чыну, а самую гісторыю гэтага чыну пераказаў былы случчак а цяпер старшыня АБРФ Ал. Яцэвіч. Наступна пасьля іншых прынагадных прамоваў мастацкую частку выканаў хор беларускіх студэнтаў з Лювэну, якія невялікаю групаю гасьцілі ў Парыжу. Іхны мастацкі мантаж пад кіраўніцтвам камп. М. Равенскага сапраўды як нічога лепш адказваў ушанаваньню Слуцкага Чыну.

## ДА ВЕДАМА БЕЛАРУСАЎ У ФРАНЦЫІ.

Каардынацыйны Камітэт беларускіх арганізацыяў у Францыі гэтаю дарогаю падае да агульнага ведама, што інж. Л. Рыдлеўскі ў зьвязку з хваробаю адышоў ад арганізацыйнага жыцьця. На будучыню ў арганізацыйных і грамадзкіх справах просіцца зьвяртацца на наступныя адрасы:

У сындыкальных справах на адрас: Section Biélorussienne S. F. T. C. (Al. Jacevic), 26, rue Montholon, Paris IX.

У справах эміграцыі, рэгістрацыі ў Office Français de Protection des Refugiés et Apatrides, а так-жа ў справах грамадзкае і праўнае апекі на адрас: R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У справах арганізацыі і часапісу «Моладзь» на адрас: Mr. Naumovic Michel, 13, Av. de la Bourdonnais, Paris VII.

**Каардынацыйны Камітэт.**

---

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ.

Giuseppe L. Messina, «La Litteratura Belorussa». Firenze 1952. стар. 147 f. 8°.

Беларусаведам ёсьць неспадзеванка. Літаратурнае флёрэнтыйскае выдавецтва Valertino нядаўна выпусьціла ў сьвет невялікую кніжку аб беларускай літаратуры ў італьянскай мове. Гэта першая паважнейшая кніжка гэтага роду, выданая італьянцамі, дык ня дзіва, што ў ёй ёсьць цімала недахопаў побач шматлікіх добрых азнакаў.

Што найбольш кідаецца ў вочы чытачу, гэта непасьлядоўнасьць аўтара адносна нацыянальнага беларускага імені; ён словы «Belorussia» і «Russia Biancha» на працягу ўсяго твору ўжвае як зусім роўназначныя.

Савецкую бібліяграфію аўтар успрыймае залішне ў добрай веры, таму ня дзіва, што часам стаецца ахвяраю савецкае прапаганды ў некаторых цьверджаньнях, як напр. адносна свабоды нацыянальнага разьвіцьця ў Савецкім Саюзе (с. 17) адносна нямецкага ўплыву на беларускі нацыянальны ўздым (с. 103), што беларуская літаратура і культура нібы-та шмат заўдзячвае саветам (с. 122 і 125) і інш.

Хоць агульна відаць, што аўтар стараецца быць аб'ектыўным, ён падчырквае, што беларусы неахвотна прынялі бальшавіцкую рэвалюцыю (с. 103) і што ў савецкай літаратуры ёсьць фальшывыя тэндэнцыі ўслаўляць сваіх гэрояў, як нейкіх надлюдзей, а ворагаў усіх бяз розьніцы мяшаць з балотам (с. 117-118) і што ёсьць паважная небясьпека з бальшавіцкага боку для беларускае культуры.

Прозьвішчы беларускіх пісьменьнікаў наагул паданы правільна і паводля беларускае вымовы, але назовы гарадоў амаль усюды паданы ў расейскай вымове.

Уканцы кніжкі ёсьць бібліяграфія аж на 13 старонках. Хоць аўтар засьцерагаецца, што там пералічаны толькі важнейшыя творы з галіны беларусаведы, аднак гэта ня зусім так, бо шматлікіх ведамых і паважных твораў там няма, але затое ёсьць менш ведамыя ў заходнеэўрапэйскіх мовах, некаторыя вартасныя часапісныя артыкулы і гэта можа быць вялікай заслугай аўтара.

Іншыя недахопы і памылкі гэтае кніжкі магчыма хтось падасьць у абшырнейшай рэцэнзіі. Тут яшчэ коратка неабходна ўспомніць аб дадатніх бакох. Аўтар відаць сьведамы, што ня толькі беларуская літаратура, але і беларуская гісторыя на Захадзе мала ведамая, таму кожны разьдзел папераджае кароткім гістарычным уступам.

Трэба залічыць асабліва ўдатнымі ветскі з пэрыяду старое беларускае літаратуры. Агулам адносіны аўтара да беларускае літаратуры і да Беларусі прыхільныя. Уканцы ён з прыціскам цьвердзіць, што беларуская літаратура годная таго, каб яе пазналі за межамі. Агульнае ўражэньне, не зважаючы на паважнейшыя і драбнейшыя недахопы і недакладнасьці, кніжка робіць добрае.

Калі-б трэба было коратка схарактэрызаваць кніжку Мэссіны, дык можна сказаць, што яна ёсьць прыкладам таго, якое можа вырабіць сабе паняцьце аб беларускай літаратуры той, што абасноўвае свае досьледы выключна на афіцыялных вестках.

**А. К.**

---

**НЕ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ АДНАВІЦЬ ПАДПІСКУ НА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1953 Г.**

---

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. **Directeur : Abbé L. Horosco.**

# Абразкі з жыцьця

## ГЭТА-Ж ТАК ЯСНА...

Якісьці вялікі урадовец, але яшчэ большы бязбожнік меў працавітую і пабожную служанку. Ён часта любіў насьміхацца з яе пабожнасьці. Аднойчы ,будучы ў вясёлым настроі, ён спытаўся служанкі:

— Скажы мне, Алеся, як гэта разумець, што ў тваім катэхізьме напісана; там між іншым кажацца, што Хрыстос памёр на крыжы, каб ачысьціць людзтва ад грахоў, але Хрыстос быў найнявіньнейшым чалавекам у сьвеце, дык навошта Бог заўзяўся на Яго нявінную кроў?

— Гэта-ж так ясна — адказала спакойна Алеся — ці вам было-б прыемна, калі-б я да мыцьця вашае бялізны ужывала брудную ваду?

## СІЛА ЎСПАМІНУ АБ БАЦЬКОХ.

З вёскі Радунь, акр. Баранавічы савецкія энкавэдысты зімою 1940 г. вывозілі ў Сібір заможнага селяніна. Суседзі моўчкам спачувалі няшчаснаму, жанчыны ўголас плакалі. Мяйсцовыя актывісты моўчкам памагалі прездным энкавэдыстам. Калі ўжо ўсе апынуліся за вёскаю, дык адзін з малодшых энкавэдыстаў наблізіўся да мяйсцовага актывіста, які суправаджаў калёну, і з дакорам казаў:

— Дзіўныя ў вас людзі. Чаго яны шкадуюць гэтых праклятых ворагаў народу?

— Ведаеш ты, што я табе скажу — адказаў з націскам актывіст — такія яны ворагі, як і твае бацькі. Яны стараліся, як маглі, каб прыдбаць што небудзь для дзецей. Думаю, што і твой бацька так-жа стараўся для цябе, і жадаў, каб табе забясьпечыць лепшую будучыню.

Энкавэдыст хвіліну памаўчаў, а потым задумённа і быццам пра сябе казаў:

— О так, мой бацька калісьці мяне вельмі любіў. Бывала, прышоўшы з працы, падкідаў мяне аж да столі і паўтараў: «Вось так цябе закіну мазалістымі рукамі, каб быў вялікім і слаўным...»

Далейшую дарогу абодва, энкавэдыст і актывіст, ехалі моўчкам, але праз тыдзень, дзесьці абодава яны зьніклі бясьсьледна.

## МАЛІТВА ДЗЯЦЕЙ.

У адным невялікім швайцарскім мястэчку адбывалася народная місія. Людзей падчас навукаў было поўна, толькі адзін пажылы гаспадар не заглядаў у царкву і нават слухаць не хацеў свае жонкі і дзецей, каб разам з імі скарыстаць з місіі. Перад заканчэньнем місіі ён прачнуўся ноччу і чуе, што ў суседнім дзіцячым пакоі яшчэ ня сьпяць і ціха супольна моляцца. Зацікаўлены гэтым фактам, гаспадар абудзіў жонку і кажа:

— Чуеш, гэта-ж пасьля поўначы, а дзеці яшчэ моляцца!

— Так, твае дзеці ўсю ноч моляцца за цябе — адказала жонка.

Шчырая была дзіцячая малітва, Бог яе выслухаў. На заканчэньне місіі ўся сям'я была разам у Божым доме і ўсе прынялі эўхарыстычнага Хрыста ў свае сэрцы.

**Паводля Л. Рюгэра.**

## «ОЙЧА НАШ», ЯК ДАКУМЕНТ.

Аднойчы ў нямецкі консулят у Буэнос Айрэс зьявіўся малады чалавек з глухое аргэнтынскае правінцыі, просячы консуля, каб даў яму даведку аб нямецкім паходжаньні. Аднак малады чалавек ня ўмеў нічуць гаварыць панямецку, бо ягоныя бацькі памерлі, калі ён быў юнаком. Ані мэтрыкі, ані іншага дакуманту ён ня меў. Консуль з гутаркі бачыў шчырасьць просячага, але ня маючы ніякага даказовага матэрыялу, ня ведаў, што рабіць. Раптам прышла яму цікавая думка:

— Ці маеце вы якія ўспаміны са свайго юнацтва? Можа вы памятаеце малітвы, якія вас вучыла маці? — спытаўся консуль.

Малады чалавек уздрыгнуўся, падзіцячаму злажыў рукі і голасна адмовіў у нямецкай мове «Ойча наш». З апошнім «Аман» дзьве вялікія сьлязы ўпалі на падлогу консуляту. Гэта быў успамін аб нябожчыцы мацеры, якая калісь вучыла сына на чужыне зьвяртацца да Бога ў роднай мове. Консуль быў так-жа моцна ўзрушаны і без затрымкі даў патрэбны дакумант свайму суродзічу, які выказаўся нязьбітым дакумантам аб сваім паходжаньні — малітваю ў роднай мове.

**Паводля Г. Фаттінгера.**

## ПЛАДЫ БЯЗБОЖНАГА ЎЗГАДАВАНЬНЯ.

Сёлета падчас суду над Слянскім і ягонымі суабвінавачанымі ў Празе чэскай быў апублікаваны ліст, які, сын аднаго з падсудных — Людовіка Фрэйка — выслаў у суд. У гэтым лісьце малады Тамаш Фрэйк аб сваім бацьку камуністу пісаў між іншым наступнае: «Я дамагаюся для майго бацькі найбольшае кары — сьмерці. Толькі цяпер я зразумеў, што гэтая істота, нягодная імені чалавека, была маім найгоршым ворагам. Я ёсьць паслухмяным камуністам і ведаю, што нянавісьць, якую я адчуваю да майго бацькі, дасьць мне новую сілу ў барацьбе за камуністычную будучыню нашага народу. Я вас прашу, паказаць гэты ліст майму бацьку і даць мне магчымасьць сказаць яму ўслух усё тое, што я аб ім думаю».

Відаць, што камуністычнае ўзгадаваньне на ўзор расейскага піянэра Паўліка Марозава, які даносіў на сваіх бацькоў, знайшло пасьлядоўнікаў і хіба-ж выкліча вялікую «радасьць» у бацькоў камуністаў.